


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12 снежня 2014 года №50 (1024)



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### 183 мільёны рублёў сабралі на марафоне

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейскім раёне 3 снежня завяршыўся дабрачынны марафон "Рабі вялікае, не чакаючы вялікага". Праводзіўся ён у 12-ы раз. Цягам месяца ў арганізацыях і на прадпрыемствах Вілейшчыны збіралі сродкі. Прызначаныя грошы для дапамогі людзям, якія маюць інваліднасць, і іх сем'ям. У марафоне прынялі ўдзел 97 арганізацый. Сабралі амаль 183 мільёны рублёў. У тым ліку 181 сям'і аказалі адрасную дапамогу.

### Пабягуць 5, 42 і 100 кіламетраў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Міжнародныя спаборніцтвы па бегу пройдуць у Маладзечне ў лёгкаатлетычным манежы дзіцячай юнацкай спартыўнай школы №3 13 і 14 снежня. Месціцца яна па Віленскай, 56. Як распавёў загадчык сектара фізічнай культуры, спорту і турызму **Аляксандр Кавалёў**, удзельнічаюць беларусы, расіяне, украінцы. 13 снежня ў 10 гадзін бягуць 5-кіламетровую дыстанцыю. 14 снежня забегі будуць увесь дзень. Пачатак а 10-й гадзіне. Удзел можна браць пры наяўнасці медыцынскай даведкі.

### Загінуў кіроўца, які парушаў 22 разы

**АШМЯНЫ.** Днём 7 снежня паблізу вёскі Гродзі ў 12:50 45-гадовы жыхар Мінска, кіруючы аўтамабілем "Рэно", не справіўся з кіраваннем. Ён выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе ўрэзаўся ў грузавы "ДАФ". Ён памёр у той жа дзень у бальніцы. Як удакладняе БелаПАН, загінулы ў 2014 годзе 22 разы прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці, з іх 12 разоў – за парушэнне хуткаснага рэжыму.

### Астравецкі лясгас падарыў ланяў

**АСТРАВЕЦ.** Спецыялісты Астравецкага лясгаса падарылі Свята-Успенскаму Жыровіцкаму манастыру двух ланяў, а Гродзенскі лясгас атрымаў у падарунак дзесяць ланяў. Пра гэта паведаміла спецыяліст астравецкага лясгаса, інжынер-лесапатолаг **Кацярына Кавальчук**. Адна лань каштуе ад 7 200 000 рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**



# "Гэта наш Танк!"

## Адкрылі першы ў Беларусі помнік Максіму Танку

**МЯДЗЕЛ.**

***Гасцей чакаў я, і яны***
***Загрукалі ў парог –***
***Абветраныя валуны***
***Крутых маіх дарог.***

Выразна дэкламуючы гэтыя радкі Максіма Танка, пачаў прамову архітэктар **Армен Сардараў**. Ён адзін з аўтараў помніка народнаму паэту Беларусі, які ўрачыста адкрылі 5 снежня ў Мядзеле. А словы гэтыя з верша "Камяні", які стаў асновай вобразнага рашэння помніка.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Падчас ускладання кветак хапала ахвотных дакрануцца да кнігі ў руцэ бронзавага Максіма Танка. На пярэднім плане – літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша.**

### "Па-новаму адкрыў Максіма Танка"

Над помнікам таксама працавалі скульптары **Іван Міско** і **Аляксандр Фінскі**. Іван Міско прыгадвае:

– Вельмі хацеў, каб Максім Танк прыйшоў у майстэрню і можна было зрабіць эцюд з натуры. На жаль, не атрымалася. Цяпер даводзілася працаваць па фатаграфіях. Галоўнае, што памяць пра яго жывая.

– За час працы над помнікам па-новаму адкрыў для сябе Максіма Танка як паэта, – прызнаецца Аляксандр Фінскі. – У мяне са школы быў вялікі трохтомнік. Але я тады так, прабег. Калі цяпер вярнуўся да яго, інакш гэта ўспрыняў, па-новаму адкрыў для сябе.

### Радкі застылі ў бронзе

Выкананы з бронзы помнік устанавілі ля гарадскога Дома культуры, на рагу плошчы Шаранговіча і вуліцы 17 Верасня. Такое супадзенне: **Яўген Скурко** (Максім Танк) якраз і нарадзіўся 17 верасня – праўда, 1912 года.

Скульптурная кампазіцыя ўяўляе сабой фігуру паэта на гранітным пастаменце. Вышыня – амаль тры метры. Непадалёку стаіць валун – быццам з верша "Камяні". На ім – выява разгорнутай кнігі з радкамі паэта "Ёсць адна песня песняў – пра Радзіму".

На адкрыцці помніка выступалі старшыня райвыканкама **Ілля Шацько**, намеснік міністра культуры **Васіль Чэрнік** і іншыя. Сярод іх быў праўнук паэта – **Яўген Скурко**.

Падкрэслівалі выступоўцы, што адкрыццё помніка – знакавая падзея для ўсёй Беларусі. Дзякавалі аўтарам і гаспадарам. А хто і прызнаваўся: "Гэта наш помнік. Гэта наш Танк!"

Ураджэнец Мядзельшчыны народны мастак Беларусі **Васіль Шаранговіч** параўнаў Максіма Танка са шматвяковай мядзельскай сасной:

– Ён уяўляецца мне сапраўдным мядзельцам – чалавекам працавітым, шчырым, добрым, чалавекам, які любіў не столькі сябе, колькі іншых.

Па заканчэнні цырымоніі госці і мядзяльчане, асабліва юныя, спяшаліся сфатаграфавацца на фоне помніка. Што ж, у горада з'явілася новая славутасць.

А ў будучым ёсць задума стварыць на Мядзельшчыне музей Максіма Танка.

### "Наш край Нарачанскі" спявалі разам

Толькі адкрыццём помніка ўшанаванне паэта не абмежавалася. Наведалі магілу паэта ў вёсцы Нові, музей у Сваткаўскай школе. У Мядзельскім ГДК адбылася літаратурна-музычная гасцёўня з удзелам паэтаў. Яны чыталі свае вершы, дзяліліся, што для іх значыць творчасць песняра. Сярод іх – **Рагнед Малахоўскі** і **Мікола Шабовіч**.

Завяршыў свята канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя Жыновіча. Гучалі таксама вершы Максіма Танка: чытала іх народная артыстка Беларусі **Марыя Захарэвіч**. Выканалі гімн раёна "Наш край Нарачанскі" – ён жа таксама на словы Максіма Танка. І клубу аматараў песні "Верасень" імкнулася падпяваць уся зала.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГРАМАДСТВА

# Свінакомплексы – шкода грунтавым водам

**МАЛАДЗЕЧНА. Якая глеба ў раёне і ці зможа яна стаць бар'ерам для пранікнення ў грунтавыя воды адходаў ад свінакомплексу? Што адбудзецца ў выніку забруджвання і хто пацерпіць першым? Чаму ў праекце мусіць быць прадугледжаная біягазавая ўстаноўка?**

Пра гэта размаўляем са спецыялістам у сферы інжынерна-геалагічных і геадэзічных пошукаў маладзечанцам **Ігарам Таранікавым**.

Нагадаем, на Маладзечаншчыне ў лістападзе абмяркоўвалася магчымае будаўніцтва двух свінакомплексаў на 100 тысяч свіней ля вёсак Мойсічы і Соўлава.

## Райвыканкам: свінакомплекс ля Мойсічаў будаваць не будуць

Пляцоўка для будаўніцтва ля Соўлава пакуль разглядаецца. Пра гэта распавёў намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Генадзь Актанаровіч** 10 снежня.

Цяпер распрацоўшчыкі будуць дапрацоўваць ацэнку ўздзеяння свінакомплексу на наваколле.

Таксама рыхтуецца правядзенне экалагічнай экспертызы. І чакаецца канчатковае заключэнне.

Генадзь Актанаровіч – старшыня камісіі па падрыхтоўцы і правядзенні грамадскіх абмеркаванняў, справаздачы па ацэнцы ўздзеяння на наваколле пабудовы свінакомплексу.




### Што значыць “сучасныя тэхналогіі”

На грамадскім абмеркаванні ў Маладзечанскім райвыканкаме прадстаўнік заказчыка праекта дырэктар кампаніі “Вялес-Міт” **Алег Іваноў** зазначаў, што ў планаваных свінакомплексах тэхналогіі новыя і сучасныя, што на экалогіі і здароўі людзей эканоміць ніхто не збіраецца.

З інжынерам-геолагам мы разабралі схему працы сучаснага свінакомплексу ля вёскі Грэск на Случчыне. Ён разлічаны на 24 тысячы свіней. Адметна, што на згаданым свінакомплексе выкарыстоўваюць італьянскія тэхналогіі.

Першае, на што варта звярнуць увагу – выбар месца. Пласт пяску больш за дзесяць метраў. Грунтавых водаў няма.

Гэта значыць, калі раптам здарыцца ўцечка, шкодныя рэчывы змогуць пранікнуць на глыбіню да пяці метраў. Тут сцёкі будуць спыняцца і назапашвацца. Ніжэй апусціцца не змогуць. У гэтым асаблівасць пяску.

На свінакомплексе прадугледжаная і біягазавая ўстаноўка.

– Усё, што збіраюць праз сістэму гноевыдалення, накіроўваюць у вялікую брадзільную ёмістасць, – тлумачыць Ігар Таранікаў. – Магчыма, дадаюць некаторыя інградыенты, каб паскорыць працэс браджэння. Трэба, каб вылучыўся метан. Ён збіраецца, як шапка, у верхняй частцы ёмістасці і ідзе на спальванне. З яго атрымліваем электрычнасць і цёплую ваду. Электрычнасць забяспечвае асвятленне свінакомплексу. Цяпло ідзе на тэхнічныя патрэбы. Цвёрдую фракцыю, якая застаецца, высушваюць парай і ў сухім выглядзе пакуюць у мяхі. Зашываюць і вывозяць для ўгнойвання ў цяплічныя гаспадаркі, фермерам, прадаюць.

**Спецыяліст лічыць, што тэхналогія, прапанаваная ў праекце свінакомплексаў на Маладзечаншчыне, састарэлая. Згодна з ёй, гной будуць падзяляць на вадкую і цвёрдую фракцыю і вывозіць на палеткі.**

У праекце свінакомплексу ў Слуцкім раёне да бліжэйшай вёскі больш за два кіламетры. Наступная вёска – у пяці. Ружа вятроў цалкам скіраваная ў супрацьлеглы бок.

### Асаблівасць глебы на Маладзечаншчыне

На Маладзечаншчыне зверху да паўметра ідзе глебава-раслінны пласт. Ніжэй не пяскі, а супесі і суглінкі. Гэта звычайная чырвона-карычневая гліна. Але ж глеба неаднародная. Могуць быць уключэнні, лінзы пяску.

Куды ідзе вада падчас дажджу ці раставання снегу? Часткова сцякае, часткова ўбіраецца ў зямлю. Далей яна можа трапляць у лінзы пяску.

Але лінзы могуць паміж сабой злучацца, аб'ядноўвацца з іншымі лінзамі, якія знаходзяцца яшчэ ніжэй.

– Я не сцвярджаю гэта, але кажу, што часта так бывае. На 80 і нават 90 працэнтаў, – заўважае спадар Ігар. – І вось глядзіце. Калі жыжа з паверхні трапляе ў лінзы, праз некаторы час яна можа пранікнуць і ў ніжнія гарызонты. Потым – яшчэ ў больш нізкія, дзе грунтавыя воды.

У верхнім пласце зямлі фільтрацыя можа дасягаць 5-12 метраў у суткі. Гэта значыць, што ён вельмі добра ўсмоктвае вадкасць. А вось ніжэй, дзе ідуць суглінкі і супесі, фільтрацыя 0,1-0,01 метра ў суткі. Вада можа тут спыняцца. Калі насыціць гнаявой жыжай верхні пласт, ніжэйшы не будзе яе ў сябе ўбіраць.

– У лепшым выпадку, жыжа будзе стаяць, – мяркуе спецыяліст. – А хутчэй за ўсё, пойдзе ніжэй па рэльефе і будзе сцякаць у самыя нізкія месцы. Пачнецца набуханне. Гліна ўбярэ жыжу ў сябе. Калі жыжа прарвецца ў больш нізкія пласты, забрудзіць грунтавыя воды. І мы з вамі не зможам кантраляваць, куды яна ідзе.

### Першымі пацерпяць жыхары вёсак

Не ў кожнай вёсцы ёсць водаправоды. Шмат дзе людзі карыстаюцца калодзежам.

– Куды будзе імкнуцца гноевая жыжа? Цячы па рэльефу. І можа заразіць ваду ў калодзежах. Нічога добрага гэта не нясе, – папярэджвае эксперт. – Калі піць такую ваду, першае, чаго варта чакаць, – кішачныя інфекцыі. Тым больш, што вёскі знаходзяцца так блізка ад свінакомплексу.

### Верхні пласт глебы будзе мёртвы

Верхні слой глебы, паўметра, пасля эксплуатацыі комплексу будзе жудасным чынам забруджаны, зазначае спецыяліст. Яго нельга будзе выкарыстоўваць ні ў гаспадарчых, ні ў іншых мэтах. Пласт трэба будзе зняць і перапрацаваць. Для гэтага існуюць спецыяльныя тэхналогіі. Але яны дарага каштуюць.

Спецыяліст мяркуе, што за колькасцю ўнесенага гною і ўтрыманнем арганічных рэчываў у верхніх пластах глебы павінен сачыць аграном. За той зямлёй, дзе пасля фарміруецца карнявая сістэма раслін.

Такім чынам, відавочна, што ў праекце ёсць аспекты, якія не ўлічылі пры планаванні свінакомплексаў. Спецыяліст падсумаваў, што, улічваючы ўсе магчымыя наступствы, будаваць свінакомплексы па дадзеным праекце нельга. Праблема не толькі ў блізкім іх размяшчэнні ля вёсак. Зямля ўсяго Маладзечанскага раёна па сваім складзе не гатовая ўвабраць столькі адходаў. Свінакомплексы могуць парадзіць шмат экалагічных праблемаў, якія пасля ўжо немагчыма будзе вырашыць.



**Настасся РОЎДА**
E-mail:
nastya.rovdo@gmail.com
Skype:
nastya_rovdo

## Суседства са свінакомплесам: “Цяпер і паветра забралі!”

**ВАЛОЖЫН. Пра тое, як жывецца каля прадпрыемства па вытворчасці свініны, гавораць жыхары Валожынскага раёна. У канцы снежня тут закончаць будаўніцтва аграпрадпрыемства, вытворчасць якога пачалася ў чэрвені. Дазволу на пабудову ў мясцовых ніхто не пытаўся.**

Мы пагутарылі з жыхарамі Канюшаўшчыны і Даўгулёўшчыны Пяршайскага сельсавета.

У пятніцу, 5 снежня, смуроду не пачулі. Мясцовыя жыхары папярэдзілі, што ён бывае не заўсёды. Асабліва дастаецца тым, хто жыве на поўначы вёскі, найбліжэй да прадпрыемства.

### “Як вецер паверне, дыхаць няма чым”

Жанчына ў першым доме, у які мы зайшлі ў Канюшаўшчыне, просіць не называць яе. У пакоі з канапамі яна сушыць бялізну.

– Яшчэ наш комплекс, напэўна, не закончаны. Можа, яшчэ будуць неяк закрываць жыжу і гной, як яно там захоўваецца. Но цяпер жа! Летам было, я вось вам раскажу. Пайшла завесці да нявесткі карову і адкрыла тут два вакны і там два. Ужо на двары ж было развеялася. Прыходжу ў хату, думаю, што ж у мяне зрабілася. Увесь смурод сцягнула ў хату. Другі раз пайшла да курэй, нічога не чую, а як выйшла – слухайце, аж тут у горле нешта! А потым і развеялася. Яно не заўсёды, толькі як вецер круціць.

Пытаемся, ці дакладна з новага прадпрыемства ідзе смурод.

– Смярдзіць ад новага, старога ж у нас ужо няма, – адказвае жанчына. – А ад старога смуроду не было. Быў толькі, калі жыжу разлівалі на поле. Але ж не пастаянна. А з новага, як вецер паверне, дыхаць няма чым.

Як аказалася, знайшоўся актывіст, які збіраў подпісы супраць будаўніцтва.

– Мы пісалі, быў чалавек, што хату тут купіў. Пэўна, і прадаў праз гэты смурод. І давалі падпісвацца нам, дык а што ж тое памагло. Што толку, калі там будоўлю ўжо пачалі.

Калі зачынялі старую свінаферму, некаторыя мясцовыя спадзяваліся ўладкавацца на новае прадпрыемства.

– Ад нас там ніхто не працуе. Гавораць, што працуюць з Валожына людзі. Многа хто хацеў ісці туды, у старым жа скарачэнні былі – і дзявайся куды хочаш. Узялі валожынскіх, што на старой ферме працавалі. А калі хто з вяскоўых хацеў, то іх так нібы характарызавалі, кажуць, што і не бралі.

### “Надта далікатныя”

Наступнай жанчыне прадпрыемства падабаецца.

– Ды нямнога дзён, каб смурод ішоў, – распавядае **Галіна Альбінаўна**. – Можна жыць. Як вецер адтуль, то ясна, што гоніць трохі. Я дык і люблю: як запаляць вечарам гэтыя ліхтары на ферме, там усё ззяе! Прыгажосць якая! Надта яны далікатныя, каму смярдзіць. Сцёкі далекавата ад нас. У нас жа кіламетр ці ёсць да комплексу, і нічога страшнага тут няма.

### “Смярдзець не будзе? А дзе ж яно дзенецца?”

**Станіслава Міхайлаўна** пражыла ўсё жыццё ў Канюшаўшчыне. Адсюль яе бацькі, тут выйшла замуж. Яе дом адзін з самых паўночных у вёсцы.

– Дзетачкі, немагчыма, такое смярдзенне, як тут жыць, я не ведаю. Ну, я ўжо дажыву. Непадалёк жывуць людзі, пераехалі, рамонт зрабілі. Як ім? Кожны дзень то яно не смярдзіць, сёння я не чула. А заўчора нацягнула аж у сені. Летам неяк адчыніла вокны, дык так нацягнула ў хату, што як тут жыць. Я не ведаю, чаму суседцы не дзьме, але ж мне немагчыма. Можа, яна па двары мала ходзіць. Да сёння тры дні смурод стаяў. Летам надта смярдзела. Потым неяк перастала, можа, адраманталі нешта. Пэўна, нешта псавалася. Цяпер зноў стала смярдзець.

Жанчыне непрыемна, чаму яна, пражыўшы і адпрацаваўшы на гэтай зямлі ўсё жыццё, павінна пакутаваць на старасці.

– Ніхто нас не пытаўся, ці ставіць. Некалі ў калгас заганялі, бралі каня і калёсы, усё пазабіралі. А цяпер і паветра забралі. О! І жывы стары, як хочаш! Гэтак і ў нас тады гаварылі, што пахнуць не будзе. А дзе ж яно дзенецца? Свінні ёсць свінні.

Мясцовыя падсумоўваюць, што смярдзіць не заўсёды. Але і свінакомплекс, які менш чым у кіламетры ад іх, працуе толькі першы год. І яшчэ не на ўсю магутнасць.

У суседняй вёсцы Даўгулёўшчына, у трох кіламетрах ад прадпрыемства, заўважаюць: часам смурод ідзе такі, што і бялізну на вуліцы не павесіш сушыць. Але адкуль ідзе смурод, яны адказваць не бяруцца.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Тэкст цалкам і фота глядзіце на сайце**



● СПАЖЫВЕЦ

# Не можаце заснуць, баліць страўнік – піце малако

**МАЛАДЗЕЧНА. У чым асаблівасць дзіцячага малака. Якая аптымальная тлустасць малака. У якой упакоўцы яго лепш набываць.**

Адказы на гэтыя пытанні мы шукалі ў спецыялістаў – інжынера-тэхнолага і доктара.

У малацэ налічваюць больш за 50 карысных элементаў. Сярод іх мінеральныя рэчывы: кальцый, магній, калій, натрый, фосфар, мінеральныя солі.

### І смак, і карысць у безлактозным малацэ застаецца

– У малацэ ёсць малочны цукар – лактоза, які засвойваецца не ўсімі людзьмі, – адзначае інжынер-тэхнолаг **Алена Суша**. – Таму створанае безлактознае і нізкалактознае малако. Яно адрозніваецца ад звычайнага толькі тым, што лактоза захоўваецца ў ім у маленькай колькасці ці ўвогуле выдаленая. Аднак і смак, і карысныя рэчывы застаюцца.

**Спецыяліст адзначае, што для здаровых людзей найлепшай будзе тлустасць малака ў 3,2%-3,5%. Яно лепш засвойваецца. Малако без тлустасці або да 1,5% больш падыходзіць для тых, хто на дыеце.**

У сярэднім тлустасць неапрацаванага малака ад каровы 2,2%-5%.

Алена Суша заўважае, што пастэрызаванае малако можа захоўвацца ад трох да пяці сутак. Але пры ўмове, што тара будзе закрытая і малако будзе захоўвацца пры адпаведнай тэмпературы. Істотным фактарам з'яўляецца і тое, каб упакоўка не прапускала святло.

### Дзіцячае малако адрозніваецца харчовай каштоўнасцю

Спецыяліст расказвае, што для дзіцячага малака адбіраюць малако экстрасорту. Яно адрозніваецца ад звычайнага толькі тым, што праходзіць высокую тэрмічную апрацоўку.

Таксама выкарыстоўваюць асептычную ўпакоўку. Гэта значыць, што падчас упакоўвання паветра не трапляе ў яе. На ўпакоўцы для дзіцячага малака можа быць пазначаны ўзрост, з якога яго можна ўжываць.

Алена Суша тлумачыць гэта тым, што малако адрозніваецца харчовай каштоўнасцю.

– Чым меншае дзіця, тым харчовая каштоўнасць меншая. Страўніку дзіцяці лягчэй перапрацоўваць яго, – заўважае спецыяліст. – Чым большае дзіця, тым больш энергіі яно расходуе і тым больш каларыйныя прадукты ўжывае.

**Галіна СІНІЦА.**
**Працяг будзе.**



Фота deti-pro.ru

Малако ўтрымлівае карысныя элементы, неабходныя для росту і развіцця дзяцей.

ЛІЧБА НУМАРА

*Норма спажывання малочных прадуктаў на 1 чалавека ў год:*

**392 кг** *у пераліку на малако*

- *смятана* **6,5** *кг*
- *сыр* **6,1** *кг*
- *тварог* **8,8** *кг*
- *масла* **6,1** *кг*
- *неразведзенае малако* **116** *кг*
- *марожанае* **8** *кг*
- *абястлушчанае малако* **12,3** *кг*
- *згушчонка* **3** *кг*

*Па дадзеных Інстытута харчавання Расійскай акадэміі медыцынскіх навук*

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 4.12 | 11.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 820,00 | **10 850,00** |
| Еўра | 13 380,00 | **13 440,00** |
| Злоты | 3 210,73 | **3 225,61** |
| Літ | 3 865,94 | **3 887,22** |
| Расійскі рубель | 199,50 | **200,50** |
| Грыўня | 713,72 | **694,62** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 10.12** | | |
| Еўра | 13400/13600 | **13350/13570** |
| Долар ЗША | 10820/10950 | **10850/10980** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 3.12 | 10.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29800 | **29800** |
| Селядзец, 1 кг | 34500 | **34500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 105000 | **105000** |
| Рыс, 0,9 кг | 10500 | **10500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 11300 | **11300** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6000 | **6000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 11700 | **11700** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10700 | **10700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Капуста, 1 кг | 3100 | **3100** |
| Морква, 1 кг | 4100 | **4500** |
| Буракі, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Лімоны, 1 кг | 18500 | **18500** |
| Апельсіны, 1 кг | 15500 | **15500** |
| Мандарыны, 1 кг | 17500 | **17500** |
| Памідоры, 1 кг | 20000 | **20000** |
| Агуркі, 1 кг | 24500 | **28800** |
| Перац, 1 кг | 20000 | **24000** |
| Вінаград, 1 кг | 18500 | **18500** |
| Бананы, 1 кг | 13000 | **12800** |
| Хурма, 1 кг | 22500 | **20500** |
| Яблыкі, 1 кг | 9500 | **8900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 17500 | **16000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

ЗДАРЭННІ

# Скралі дарагія маторы і закапалі ў лесе

**МЯДЗЕЛ. У канцы кастрычніка ў Мядзельскі РАУС звярнуўся дачнік, жыхар горада Мінска. Ён паведаміў, што ўначы на возеры Нарач, непадалёку ад вёскі Гатавічы, невядомыя выкралі дарагія імпартныя маторы з лодак. Належаць тыя самому заяўніку і двум яго знаёмым.**



Фота kateramotori.ru

Мужчыны сапсавалі мінчаніну і яго знаёмым задавальненне ад рыбалкі. Цяпер давядзецца адказваць за крадзеж і кампенсаваць 35 мільёнаў рублёў шкоды.

Усе тры маторы выкрадальнікі знялі, адкруціўшы мацаванні, а чацверты спрабавалі адпілаваць. Аднак не змаглі, бо зламалася піла. Па словах заяўніка, лодкі на працягу дачнага сезона знаходзіліся на беразе без нагляду.

Па гарачых слядах злачынства раскрыць не ўдалося. Тым не менш, праз тры тыдні супрацоўнікамі Мядзельскага РАУС за адміністрацыйнае правапарушэнне затрымалі 33-гадовага жыхара Купы (курортнага пасёлка Нарач). Ён раней неаднаразова судзімы за крадзяжы. Падчас свайго 15-сутачнага арышту ў мужчыны здалі нервы, і ён прызнаўся ў здзяйсненні крадзяжу рухавікоў. Высветлілася, што злачынства ён здзейсніў не адзін, а з двума змоўшчыкамі – 36-гадовымі жыхарамі Мядзела.

Падазраваныя распавялі, што злачынства прадумалі загадзя. Увечары, калі сцямнела і вакол не было сведак, яны знялі рухавікі з лодак і схавалі на дачы ў знаёмых. Праз некалькі дзён перавезлі і закапалі маторы ў бліжэйшым лесе.

Экспертыза паказала, што дробны пясок і ржа сур'ёзна пашкодзілі механізмы рухавікоў. Цяпер мужчынам давядзецца не толькі адказваць перад судом за крадзеж, але і кампенсаваць шкоду ўладальнікам дарагіх матораў, кошт якіх ацэньваецца ў 35 мільёнаў рублёў.

**Павел ГОРБАЧ, аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама.**

## Так правучыў, што зламаў чатыры рабры

**МЯДЗЕЛ.** У пакоі інтэрната ў Мядзеле 24 лістапада са спіртным бавіла час кампанія.

Адной дзяўчыне пазванілі, і яна выйшла. Па вяртанні сказала, што ў яе здарыўся канфлікт.

Кампанія працягвала адпачываць. Ніхто гэтаму ўвагі не надаў, апроч 35-гадовага неаднаразова судзімага мужчыны. Жыхар вёскі Брусы вырашыў правучыць, як ён палічыў, крыўдзіцеля.

Нікому не гаворачы, пайшоў у прыватны дом. Некалькі разоў ударыў рукамі і нагамі мядзельчаніна. Зламаў таму чатыры рабры.

Па факце прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў узбудзілі крымінальную справу. Расказаў пра гэта часовы выканальнік абавязкаў на пасадзе намесніка начальніка Мядзельскага РАСК **Міхаіл Сакалдынскі.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Міліцыя шукае. А чалавек сядзіць у "Аднакласніках"

**ВІЛЕЙКА.** Толькі на нашым сайце з'явілася інфармацыя пра вышук віляйчаніна **Уладзіміра Кузьміча**, як ужо наведнікі знайшлі яго. Пісалі ў каментарах: "Ён сёння быў у сацсетцы "Аднакласнікі".

Адразу ўзнікла пытанне: "А няўжо міліцыя гэтага не ведае?"

– Ведаем, – тлумачыць оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Кацярына Курэц**. – Аднак на падставе з'яўлення ў "Аднакласніках" закрыць вышуковую справу не можам. А доказаў месцазнаходжання грамадзянін нам не дае.

Расказала яна, што віляйчанін паехаў на заробкі ў Санкт-Пецярбург у кастрычніку 2012 года. Доўгі час родныя кантактавалі з ім праз "Аднакласнікі". А калі месяцы два не адгукаўся, то маці звярнулася ў міліцыю з заявай пра знікненне. Было гэта сёлета ў пачатку верасня.

– Неўзабаве Уладзімір Кузьміч зноў з'явіўся ў "Аднакласніках", – працягвае Кацярына. – Я пісала яму, прасіла пацвердзіць месцазнаходжанне, каб закрыць справу. Аднак вынікаў гэта не прынесла.

Пацвердзіць сваё месцазнаходжанне можна проста. Паведаміць па тэлефоне ці ў інтэрнэце свой дакладны адрас у Санкт-Пецярбургу. Тады б праваахоўнікі з Расіі праверылі, ці сапраўды мужчына там жыве, і ўзялі заяву аб спыненні вышуку.

– Аднак Уладзімір Кузьміч не хоча аб'яўляцца, – кажа Кацярына. – Адразу адказваў, што "жывы-здаровы". А потым перастаў. Таму мы вымушаны працягваць яго шукаць.

Тым часам Уладзімір паставіў сабе ў "Аднакласніках" статус: "Ды жывы я!". На момант падрыхтоўкі артыкула да друку адказу не было.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У Красным забілі жыхара Туркменістана

**МАЛАДЗЕЧНА.** Познім вечарам 5 снежня на пероне чыгуначнай станцыі "Уша" 52-гадоваму грамадзяніну Туркменістана нанеслі нажавыя раненні. Пацярпелага раніцай у 4:25 знайшлі мёртвым у зале чакання.

На целе загінулага знайшлі шматлікія колата-рэзаныя раны грудной клеткі і жывата.

Загінулы быў раней судзімы за прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання. Ён не меў пэўнага месца жыхарства і роду занятку.

Вызначылі, што раненні нанеслі 5 снежня апоўначы на пероне нажом. Ён спрачаўся з нецвярозым мясцовым жыхаром, якога і падазраюць у забойстве.

Падазраваны нідзе не працуе. Раней судзімы за разбой і невыкананне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду.

Яго затрымалі.

**Сяргей ЗЯНЬКО, "ЧіЗ".**

## 86-гадовы пенсіянер кінуўся ў калодзеж і загінуў

**СМАРГОНЬ.** У адну з вёсак Смаргонскага раёна жанчына ад раніцы прыехала праведаць цесця, які жыў адзін у доме. Агледзеўшы двор, знайшла 86-гадовага свяяка ў калодзежы.

Месца здарэння агледзелі следчыя і эксперты, апыталі свяякоў і аднавяскоўцаў пенсіянера.

Высветлілі, што апошнім часам у дзядулі былі перыядычныя прыступы праз пахіснулую псіхіку. Ён здзяйсняў незразумелыя ўчынкі.

І ў апошнюю ноч без нагоды выскачыў у двор і скокнуў у калодзеж.

Па факце смерці следчыя праводзяць праверку. Канчатковае рашэнне прымуць пасля памяротнай псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы.

**Сяргей ШАРШАНЕВІЧ, "Гродзенская праўда".**

## Выпіўшы, мужчына падпаліў галаву 40-гадовай жанчыне

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта 3 снежня ўзбудзіў крымінальную справу ў адносінах 36-гадовага раней судзімага маладзечанца.

Яго падазраюць у тым, што падпаліў 40-гадовай жанчыне галаву.

Здарэнне адбылося 2 снежня каля 20 гадзін у кватэры 42-гадовага маладзечанца.

Па папярэдняй версіі, падазраваны разам з імі выпіваў, пасля ўзнікла спрэчка. Ён абліў галаву пацярпелай лёгкаўзгаральнай вадкасцю і падпаліў.

Жанчына атрымала апёкі верхніх дыхальных пуцёў, галавы і рук.

Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Наўмыснае прычыненне цяжкога цялеснага пашкоджання".

**Сяргей ЗЯНЬКО, "ЧіЗ".**

## Кіроўца маршруткі збіў 9-гадовага хлопчыка

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося вечарам 20 лістапада каля аўтавакзала ў Радашкавічах.

52-гадовы мясцовы жыхар кіраваў маршрутным таксі з пасажырамі. У межах нерэгуляванага пешаходнага пераходу наехаў на вучня трэцяга класа мясцовай школы.

Дзіця атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Кіроўца быў цвярозы.

**Сяргей ЗЯНЬКО, "ЧіЗ".**

## Вынеслі з пажару мужа і жонку ў цяжкім стане

**ВІЛЕЙКА.** Паведамленне аб загаранні паступіла 9 снежня ў першай гадзіне ночы. Суседка паведаміла, што ў кватэры пяціпавярховікі адбыўся пажар.

На трэцім паверсе выратавальнікі знайшлі 67-гадовага мужчыну і яго 59-гадовую жонку.

Брыгада хуткай медыцынскай дапамогі шпіталізавала пацярпелых.

**Паводле mchs.gov.by**

## Пройдзе акцыя "Летнія шыны і зіма – несумяшчальныя"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Яна адбудзецца 17 снежня ў 12 гадзін на плошчы Палаца культуры.

Падчас яе супрацоўнікі ДАІ раскажуць пра змены ў заканадаўстве, якія датычацца выкарыстання зімовых шын і дзіцячых аўтакрэслаў.

Пройдуць конкурсы "Тэарэтычны экзамен па правілах дарожнага руху", "Аказанне медыцынскай дапамогі", "Фігурнае кіраванне аўтамабілем", "Ці падрыхтаваная ваша машына да зімы?"

Удзельнікаў чакаюць прызы: зімовыя шыны, дзіцячыя аўтакрэслы, аўтакасметыка, іншыя.

**Дзмітрый ЮРКЕВІЧ, начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС, маёра міліцыі.**

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць украінца, які часова жыў у Івянцы

**ВАЛОЖЫН.** Шукаюць жыхара і ўраджэнца горада Запарожжа **Вадзіма Глушчанку**, 1977 года нараджэння, які часова жыў у Івянцы.



Мужчына сёмага чэрвеня сышоў з вагончыка, у якім жыў.

Вагончык знаходзіўся ў Івянцы па вуліцы Янкі Купалы, 2. Да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 35-40 год, рост 160-174 сантыметры, сярэдняга целаскладу, плечы гарызантальныя, еўрапейскі тып твару, смуглы, бровы прамыя, шэрыя вочы, прамы нос, валасы прамыя русыя коратка падстрыжаныя. Гаворыць з украінскім акцэнтам. Памер абутку 42-43. Ходзіць ўразвалку. Пры размове актыўна жэстыкулюе.

Калі вы што-небудзь ведаеце пра месцазнаходжанне гэтага мужчыны, паведаміце, калі ласка, у Валожынскі РАУС па тэлефонах: **8-01772- 55302, 8-01772-54021, 8-029-5076698** або па тэлефоне **102**.

**Юлія СЕЛЯТЫЦКАЯ, старшы следчы Валожынскага РАСК, маёр юстыцыі.**

ПРАВА

# Сям’я змагаецца за добрае імя

## Праз суд даказваюць, што іх дзяцей паставілі ў сацыяльна-небяспечнае становішча беспадстаўна

**СМАРГОНЬ. Юлія і Канстанцін Вінакуравы перасяліліся ў вёску Чухны на Смаргоншчыне некалькі год таму. Вырашылі, што Мінск не для іх, і спадзяваліся, што вёска пад гістарычным Крэвам стане сямейнай прыстанню.**

А сёлета апынуліся пад пагрозай таго, што ў іх забяруць дзяцей.

Спачатку гаспадары купілі адзін дом, потым другі. Побач будуюць новае жыллё. Яны займаюцца арганічнай сельскай гаспадаркай. Гэта новы для Беларусі кірунак, аматары якога імкнуцца выкарыстоўваць прыродныя механізмы па максімуму. У красавіку Канстанцін прайшоў навучальныя курсы, удзельнічаў у розных трэнінгах на гэту тэму.

Маладыя людзі развіваюць агратурызм. Частуюць гасцей экалагічна чыстымі прысмакамі. Спецыяльна выбіралі дзейнасць, каб удваіх быць дома і даглядаць дзяцей.

Юлія і Канстанцін разам дзявяць год. Абодва захапляліся японскай анімацыяй, пазнаёміліся на тэматычным форуме. Праз два гады ажаніліся. Ён – інжынер-тэхнолаг, яна – настаўнік біялогіі і практычны псіхолаг.



Фота забяспечана Юліяй ВІНАКУРАВАЙ.

**Сям’я Вінакуравых, што жыве ў Чухнах на Смаргоншчыне. Канстанцін трымае на руках сына Артура, на руках Юліі – дачка Веранiка.**

– Мяне ва ўсёй гэтай непрыемнай гісторыі ўразіла, як на судзе заявілі: “Яна скрывала сваю адукацыю, не казала, што педагог!” Ніхто ж і не пытаўся.

Пра саму непрыемную гісторыю маладая сям’я распавяла “РГ”, каб даказаць, што за неадказнае выкананне службовых абавязкаў можна дамагчыся пакарання.

### “Як нараджалі ўродаў, так і будзеце”

Старэйшаму сыну Вінакуравых, **Артуру**, пяць год. У яго дзіцячы цэрабральны параліч. Маладая пара доўга рашалася на другое дзіця. Аналізавалі, чаму ў хлопчыка магло развіцца захворванне. Кансультаваліся з дактарамі, самі чыталі. Вырашылі, што прычына ў трывожнасці падчас цяжарнасці.

Год таму Юлія рашылася зацяжараць. Жанчына імкнулася пазбягаць любых абставінаў, якія маглі б расстроіць ці прымусіць перажываць. І на ўлік па цяжарнасці стала пазней, чым раяць, на 24-м тыдні.

– А тут жа маленькі раён, як адна Малінаўка. Калі прыйшла пасля 12 тыдняў – значыць, алкашка. Медыкі пачалі казаць, што трэба абследавацца. Навошта мне класціся разам з хворымі, нервавацца? Я адмовілася. Тут адна з дактароў пачала: “Ды вы нараджалі ўродаў і нараджаць будзеце, ды як так можна, 18 дэкрэт жа ёсць!” І тут пачалі ездзіць адна камісія за другой. Спачатку прыязджалі медыкі. І ўсё гэта цягам цяжарнасці, падчас якой хацелі сядзець спакойна.

### Нямытая падлога – забяром дзяцей?

Чарговы раз камісія прыехала 11 чэрвеня, ужо пашыраная. Сярод удзельнікаў былі пажарны і прадстаўнік электрасетак. Яны пракаменціравалі па сваёй спецыяльнасці стан дома. Як заўважаюць гаспадары, людзі пры пагонах у любой з камісій паводзілі сябе годна, з імі было спакайней. А вось іншых удзельнікаў яны не запрашалі і лічаць, што ў дом зайшлі неправамерна.

Праз месяц муж і жонка атрымалі паведамленне, што Артура паставілі на ўлік непаўналетніх у сацыяльна-небяспечным становішчы (СНС). Хаця такое рашэнне прымаецца на савеце па прафілактыцы безнагляднасці і правапарушэнняў непаўналетніх у прысутнасці саміх бацькоў.

Канстанцін скардзіцца, што ніхто не мог патлумачыць, што ж трэба зрабіць, каб зняць дзіця з уліку:

– Павінны быць сур’ёзныя прычыны, каб прызнаць дзіця ў СНС. Наступны ж этап – калі дзяцей забіраюць з сям’і. І што значыць “антысанітарныя ўмовы пражывання”, як пра нас напісалі? Нямытая падлога? Раскіданыя рэчы? І што, за гэта дзяцей забіраць?

### Як трымацца нормаў, якіх няма

І Юлія, і Канстанцін лічаць, што такую работу варта праводзіць з сем’ямі, дзе злоўжываюць алкаголем. Яны ж клапоцяцца пра сына, праходзяць рэабілітацыю, займаюцца дома і ў цэнтры карэкцыі і рэабілітацыі. Асноўныя прэтэнзіі да пары – не трымаюцца мінімальных санітарных нормаў і не працуюць. Канстанцін на гэта адказвае:

– Гэтых нормаў не існуе, і зразумець, што гэта, немагчыма. А вядзенне ўласнай гаспадаркі – таксама праца, якой можна зарабляць.

Падчас разбіральніцтва нарадзілася Веранiка, якая аўтаматычна таксама трапіла ў СНС. Як толькі Вінакуравы падалі ў суд, дзяцей знялі з уліку, а дырэктара сацыяльна-педагагічнага цэнтра пакаралі за тое, што бацькоў не было на савеце па прафілактыцы. Але маладых людзей клапоцяць, як пасля гэтыя запісы адгукнуцца для іх і дзяцей. І наогул, чаму з недастатковымі падставамі і не па ўсіх правілах можна зрабіць такі сур’ёзны крок, як паставіць дзяцей у сацыяльна-небяспечнае становішча?

Яны хочуць большага – даказаць, што іх дзяцей беспадстаўна паставілі ў СНС. З такой скаргай звярнуліся ў Гродзенскі абласны суд.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



АФІЦЫЙНЫ ПОГЛЯД

### “Мы не можам быць абыякавамі, калі пакутуюць дзеці”

**Сітуацыю ў сям’і Вінакуравых мы папрасілі ацаніць дырэктара Смаргонскага сацыяльна-педагагічнага цэнтра Ларысу Татарынаву:**

– Рашэнне аб пастаноўцы на ўлік непаўналетняга, як прызнанага, што знаходзіцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, не прымаецца спецыялістамі ўстановы адукацыі аднаасобна. Выпадак з Артурам Вінакуравым не быў выключэннем. Кампетэнтная камісія ў складзе педагогаў, медыкаў, міліцыі, прадстаўнікоў улады і камісіі па справах непаўналетніх пасля наведвання сям’і па месцы жыхарства адназначна выказала сваё меркаванне – прызнаць Артура, што той знаходзіцца ў сацыяльна небяспечным становішчы.

Сапраўды, на пасяджэнні савета па прафілактыцы безнагляднасці і правапарушэнняў непаўналетніх, на якім прымалі рашэнне аб пастаноўцы на ўлік, бацькі непаўналетняга не прысутнічалі, гэта звязана са зменай кадраў у нашай установе. Я была пакараная за гэту памылку. Праца з сям’ёй вялася, згодна з індывідуальным планам абароны правоў і законных інтарэсаў непаўналетняга.

20 жніўня нам паведамілі, што Юлія Вінакурава-Лабунская нарадзіла другое дзіця і самавольна пакінула радзільню. Адразу ж наведалі сям’ю, каб праверыць жыллёвыя ўмовы нованароджанай Веранікі, з медыкамі, спецыялістам камісіі па справах непаўналетніх, міліцыяй, прадстаўнікамі ўлады.

Гаспадары дазволілі зайсці ў дом толькі медыцынскім работнікам. Спецыялісты паведамілі, што для нованароджанай не ў поўнай меры створаны неабходныя ўмовы. У пакоі непрыбрана, усюды смецце і рэшткі ежы, Артуру таксама неабходна было лячэнне.

На пасяджэнні савета па прафілактыцы безнагляднасці і правапарушэнняў непаўналетніх нашай установы прысутнічалі запрошаныя: наменснік старшыні райвыканкама, старшы памочнік пракурора, камісія і інспекцыя па справах непаўналетніх, медыкі, а таксама бацькі непаўналетніх. Рашэнне аб прызнанні непаўналетняй Веранікі Вінакуравай, што яна знаходзіцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, было прынятае аднагалосна.

Пазней сітуацыя ў сям’і змянілася. Бацькі перасталі перашкаджаць візітам спецыялістаў, дазвалялі ўвайсці ў дом, выслухоўвалі рэкамендацыі. Яны навялі і стараліся падтрымліваць парадак у доме. Рэгулярна наведвалі заняткі з Артурам, рэгулярна прывозілі на агляд Вераніку да медыкаў, таму дзеці былі знятыя з уліку.

Вінакуравы звярталіся ў суд нашага раёна, які прызнаў рашэнні аб пастаноўцы іх непаўналетніх дзяцей на ўлік, таму што знаходзіцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, правамернымі. Дакументы пра тое, што дзеці Вінакуравых былі на ўліку, застаюцца толькі ва ўнутраным карыстанні. Безумоўна, мы не можам цалкам забыць пра сям’ю, будзем і далей назіраць за сітуацыяй у ёй.

Яшчэ раз падкрэслю, што пытанне аб прызнанні таго, што дзеці знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, вырашаецца не на падставе меркавання каго-небудзь, а згодна з крытэрыямі і паказчыкамі сацыяльна небяспечнага становішча.

Мы заўсёды кіруемся ў працы Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 лістапада 2006 г. №18 “Аб дадатковых мерах па дзяржаўнай абароне дзяцей у нядобранадзейных сем’ях”.

У любым выпадку бяспеку дзіцяці мы заўсёды ставім на першае месца. Няможна быць абыякавымі і безудзельнымі, калі пакутуе дзіця. Мы рэагуем нават на ананімныя званкі, калі паведамляюць пра пагрозу для дзяцей, але пры гэтым мы мусім быць уважлівымі ў кожным выпадку і кіравацца нарматыўнымі дакументамі.

# У чым сустракаць Новы год – 2015

## Набліжаецца год Сіняй Драўлянай Казы

Топ колераў:
- сіні
- зялёны
- жоўты
- чорны
- карычневы
- чырвоны
- ружовы
- тэракотавы

Каза элегантная і арыстакратычная. У яе цудоўны густ! Менавіта таму варта загадзя прадумаць свой гардэроб. Вобраз мусіць быць завершаны. Не павінна стварацца адчуванне, што вы пачалі рыхтавацца да свята ў апошнюю хвіліну

***Галоўнае: вобраз, які вы выбралі, мусіць вам ідэальна падыходзіць***

**1. Прычоска**
Не павінна выглядаць нядбайна ці неахайна. Могуць быць разнастайныя ўкладкі, косы, вытанчаныя хвасты і прычоскі з кучаравінкамі. Як дадатковыя ўпрыгожванні можна выбраць драўляныя заколкі. Не варта забываць, што Каза не толькі арыстакратычная, але і экстравагантная. Няма абмежаванняў, можна смела аддавацца палёту сваёй фантазіі

**2. Адзенне**
Убранне мусіць быць з мяккіх, натуральных тканін. Да прыкладу, з замшы, аксаміту, кашаміру ці шэрсці. Трэба адмовіцца ад сінтэтыкі, нават калі вельмі спадабалася сукенка. Можна выбраць і штосьці больш зручнае. Як ажурныя кофтачкі ці элегантныя накідкі з ваўняных нітак. Чым больш пухнатым і мяккім будзе абраны убор, тым больш ён будзе адпавядаць гаспадыні 2015 года

**Макіяж** мусіць быць стрыманым, элегантным, натуральным

**Мужчынам**
падыдзе касцюм карычневага, шэрага альбо цёмна-сіняга колеру з правільна падабраным гальштукам. Сарочка павінна быць ідэальна адпрасаваная, а туфлі – начышчанымі. Выдатна падыдзе і світар у камплекце з джынсамі



У наступным нумары "РГ" рыхтуе тэматычную старонку "Што прыгатаваць да навагодніх святаў"
*Запрашаем рэкламадаўцаў*
Тэлефоны "РГ":
(8-0176) 75-38-41
Vel (8-044) 566-26-99

Фота fotoofm.net.

**Салата "Авечка" стане хітом навагодняга стала.**



● УСХОДНІ ГАРАСКОП

# Год прынясе нечуваныя сюрпрызы, ад шчасця аж дух будзе займаць

**У год Драўлянай Сіняй Казы можна будзе атрымаць жаданую падтрымку ад апякункі года. Бо гаспадыня яго дабрадушная, заўсёды адгукаецца на дабро.**



**Пацук.** Гэты год дасць вам "зялёнае святло", адкрые перад вамі магчымасці, каб падняцца ўгору. А калі вы звязаныя са светам мастацтва, то вам не будзе роўных.



**Бык.** Хоць у такія гады вы былі часцей неспакойныя і хмурыя. Але гэта так было. Цяпер вы мяняецеся да лепшага, і свет, адносіны людзей да вас таксама мяняюцца. Чакайце сюрпрызаў, ад якіх будзе займаць дух. Калі крыўды прыносяць вам боль – адпусціце іх. Іншага шляху няма.



**Тыгр.** Вас у год Казы чакае незвычайнае падарожжа, якое і праз шмат гадоў у душы будзе выклікаць цёплыя і радасныя ўспаміны. Вы ні ў чым не будзеце мець патрэбы, і ваша шкура будзе блішчаць, ільсніцца.



**Трус.** Вы ў любым выпадку можаце быць спакойныя, калі не шчаслівыя. Вашаму дабрабыту не перашкодзяць ні непрыемнасці, ні некаторыя накладкі. Падарожнічайце, бо менавіта падарожжы даюць досвед і пашыраюць свядомасць, робяць вас цікавейшымі, мудрэйшымі, лепшымі.



**Дракон.** Працуйце, адпачывайце, атрымлівайце асалоду ад жыцця. Не займайцеся толькі тым, дзе вы не кампетэнтныя ці не маеце аўтарытэту. Добра было б завяршыць старыя справы, а калі такіх няма, то набірайцеся сіл для будучага.



**Змяя.** Для вас гэты год – год спакою і неўмяшальніцтва ні ў якія справы. Мудрасць дапаможа выбраць правільны курс, справіцца з усімі складанасцямі, разабрацца ў сабе і выйсці на больш высокі ўзровень.

*Самі рабіце добрыя справы, і ўдача не прымусіць сябе чакаць, усё акупіцца ў сто разоў.*



**Конь.** Год прынясе змены. Яны будуць тычыцца ўласнага жыцця, работы, настрою. Вы можаце праявіць свае таленты ў любой сферы дзейнасці, бо будзеце выкладвацца на ўсе 100%. І не бойцеся памыляцца і вучыцца на сваіх памылках. Менавіта памылкі прыводзяць нас да поспеху.



**Каза.** Гэты год – ваш. І вам абавязкова трэба скарыстацца такой магчымасцю. У вас усё пойдзе выдатна. Вы адчуеце набліжэнне падараванай звыш цудоўнай будучыні.



**Малпа.** Год спрыяльны, лёгкі і вясёлы. Вы добразычлівыя, таму заўсёды зможаце знайсці паразуменне з людзьмі. Памятайце, што самае важнае ў жыцці – гэта блізкія людзі. Яны важней за вашу работу, захапленні і камп'ютар. Цаніце іх, быццам яны – усё ваша жыццё. Бо так яно і ёсць.



**Певень.** Каб быць шчаслівым, вы павінны ўсвядоміць, што жыццё – гэта тое, што ёсць сёння. Мы пастаянна чакаем нейкіх падзей, якія будуць, але забываем пра тое, што жыццё здзяйсняецца менавіта цяпер. Навучыцеся жыць сённяшнім днём і перастаньце спадзявацца на ілюзіі ў будучыні.



**Сабака.** Вы будзеце задаволеныя ўсім, бо год Казы нясе ўдачу ва ўсіх справах. Год пераломны. Вы ж рашучыя, смелыя і не будзеце адступаць ні на крок перад пераменамі, бо не ў вашых правілах сумнявацца перад выбарам. Ад гэтага атрымаеце вялікія выгады. Стварайце свой рай на зямлі.



**Свіння.** Вам, галоўнае, не ўліпнуць у якую-небудзь непрыглядную гісторыю ў сферы пачуццяў. Каб палепшыць жыццё – займіцеся тым, ад чаго вы ў захапленні. І тады кожны дзень стане падарункам.

Марыя УРБАНОВІЧ.

● ПРЫГАЖОСЦЬ

## Ствараем вобраз на Новы год

**Акцэнт на вусны або на вочы. Цені зялёных, фіялетавых, бірузовых, ізумрудных адценняў, шырокія стрэлкі.**

На Новы год макіяж можа быць яркі. Галоўнае, не блішчэць як ёлка.

– Калі вырашылі засяродзіць увагу на вуснах, – падкрэслівае візажыст **Ірына Кулінчык**, – бярыце папулярныя ў гэтым сезоне колеры – слівавы, шакаладны, вінны, барвовы. Не забывайцеся і на класічную чырвоную памаду. Яна заўсёды ў модзе!

Напярэдадні падрыхтуйце скуру – зрабіце мяккі пілінг, нанясіце маску і крэм.

### Добры макіяж пачынаецца з асновы для макіяжу

Яна зробіць паверхню скуры роўнай і гладкай.

У навагоднюю ноч выкарыстоўвайце больш шчыльныя і ўстойлівы танальны крэм з пазнакай "long-lasting". Зафіксуйце яго тонкім слоем рассыпістай пудры.

Для выдзялення скулаў выкарыстоўвайце скульптар шэра-карычневага адцення, а таксама румяны.

### Крэмападобныя тэкстуры ценяў

Яны не губляюць інтэнсіўнасці колеру, не скочваюцца. Цені можна выбіраць з вялізнай палітры адценняў і самых разнастайных тэкстур.

Не забывайцеся аб усіх адценнях золата.

### У модзе шырокія стрэлкі ў духу Сафі Ларэн

На векі нанясіце базу пад цені. Гэта дапаможа макіяжу пратрымацца ўсю ноч.

Цяпер на піку моды – 60-я. Шырокія стрэлкі актуальныя. Падводка не абавязкова чорная.

Кропелька празрыстага бляску ў цэнтры вуснаў скончыць макіяж.

Галіна СІНІЦА.



● РЭПЕРТУАР

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Хохлік"** (музычная казка), С.Кавалёў
14 снежня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27.**


Фота забяспечана Антанінай АЛЯКСАНДРАВАЙ

Велавандроўнікі па дарозе завіталі да барона Мюнхгаўзена ў Глыбокім. На здымку: Віктар Дубко, Антаніна Аляксандрава і Сяргей Бялкоў.

● ЗАХАПЛЕННІ

# Зіма раварыстам – не перашкода

**МАЛАДЗЕЧНА. У чарговую зімовую велавандроўку выбраліся ўдзельнікі турыстычнага клуба "Пілігрым".**

Маршрут велападарожнікаў расцягнуўся ажно на 330 кіламетраў. Шлях прайшоў праз Маладзечна, Мядзел, Паставы, Глыбокае, Полацк.

Цягам сямі дзён у дарозе плячо да пляча знаходзіліся **Віктар Дубко, Мікалай Чыркоў, Саша Сапега, Святлана Маліноўская, Антаніна Аляксандрава** і старшыня турыстычнага клуба "Пілігрым", які і ўзначаліў велапаход, **Сяргей Бялкоў.**

Падчас падарожжа велавандроўшчыкі наведалі шмат гістарычных і культурных месцаў Міншчыны і Віцебшчыны.

Непадалёку ад Пастаў ёсць вёска Агароднікі. У гэтай вёсцы нарадзіўся беларускі паэт і пісьменнік **Уладзімір Дубоўка.** На жаль, у доме дзяцінства паэта нічога не захавалася з таго, што нагадвала б пра Уладзіміра Дубоўку.

Але пра яго помняць. У вёсцы Юнькі, што на Пастаўшчыне, настаўнікі і вучні мясцовай школы стварылі гасцёўню Уладзіміра Дубоўкі. У музеі сабраныя цікавыя звесткі і матэрыялы з жыцця пісьменніка, на асобным стэндзе выстаўленыя яго творы.

Прыемнай старонкай падарожжа было і наведванне Пастаўскага краязнаўчага музея. Экскурсавод музея **Уладзіслаў Шышко** правёў вельмі цікавую экскурсію, распавёў пра Пастаўскі край ад першага яго згадвання да сённяшняга дня.

У Глыбокім, наступным прыпынку велападарожнікаў, велатурысты наведалі помнік самаму вядомаму вандроўніку і цудоўнаму апавядальніку – барону Мюнхгаўзену.

Тэмпература паветра ў Глыбокім апусцілася да мінус 14, а гэта азначала, што трэба рухацца хутчэй.

Яшчэ адным пунктам вандроўкі стала вёска Празарокі ў Глыбоцкім раёне. Тут нарадзіўся заснавальнік першага беларускага прафесійнага тэатра **Ігнат Буйніцкі.**

Падарожнікі з Маладзечна падарылі музею Ігната Буйніцкага фотаздымак маладзечанскай вуліцы, якая носіць імя стваральніка тэатра. Супрацоўнікі музея паабяцалі, што пра гэты здымак абавязкова раскажуць усім наведнікам.

Акрамя таго, у Празароках велападарожнікі з Маладзечна сустрэліся з такімі ж аматарамі падарожжаў на роварах, але з Полацка. Сустрэча ператварылася ў вечар-успамін пра падарожжы, прыгоды, цікавосткі з жыцця раварыстаў.

У Полацк дзве групы рушылі разам. Пра Полацк расказваць можна не адну гадзіну. І пра яго Сафійскі сабор, дзе падарожнікам пашчасціла трапіць на канцэрт арганнай музыкі ў выкананні лаўрэата міжнародных конкурсаў **Ксеніі Пагарэлай**, арганісткі з Полацка. І пра музеі, і пра ўніверсітэт, і пра шматлікія полацкія помнікі і скульптуры.

Для чаго я вам гэта расказала? Каб у наступную вандроўку вы паехалі разам з намі, з удзельнікамі клуба "Пілігрым".

**Антаніна АЛЯКСАНДРАВА,**
**удзельніца паходу.**

● НАВІНЫ

# Кубак узялі выратавальнікі

**ВІЛЕЙКА.** Кубак адкрыцця сезона па валейболе разыгралі ў Вілейцы 5 і 6 снежня. Пяць камандаў гулялі на дзвюх пляцоўках.

– Інтрыга захоўвалася да апошняй гульні, – расказаў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда.** – У ёй прадстаўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях выйгралі ў асноўных канкурэнтаў, каманды "Першы Беларускі", з лікам 2:0. Выратавальнікі і занялі першае месца. Замкнула тройку прызёраў каманда "Энергазбыт".

Каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях перамагла на ўсіх матчах з лікам 2:0.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота mchs.gov.by.

Пераможца – каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях.

● НАВІНЫ

## Прайшлі раённыя спаборніцтвы па шахматах і шашках сярод інвалідаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** У пачатку снежня ў шахматна-шашачным клубе прайшлі раённыя спаборніцтвы па шахматах і шашках сярод інвалідаў з парушэннем функцый апорна-рухальнага апарату і са слабым зрокам.

У спаборніцтвах узялі ўдзел 23 чалавекі. Сярод жанчын па шашках першае месца заняла **Марыя Масевіч**, другое – **Вера Пажарыцкая**, 3-е – **Алена Карнілава**.

Па шахматах першае месца заваявала **Клаўдзія Догель**, другое месца ў **Людмілы Картошкінай**, трэцяе – у **Марыі Картошкінай**.

Сярод мужчын па шашках 1-е месца заняў **Уладзімір Сапоцька**, другое – **Аляксандр Дзямідчык**, трэцяе – **Ігар Жаркевіч.**

Па шахматах першае месца ў **Валяр'яна Мілічэнкі**, другое – у **Патаха Патахава**, трэцяе – у **Міхаіла Філіпчанкі**.

Пераможцаў спаборніцтваў узнагародзілі грашовымі прызамі і граматамі аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.

## Адбудзецца дзень адчыненых дзвярэй

**МАЛАДЗЕЧНА.** 13 снежня пройдзе дзень адчыненых дзвярэй у ДЮСШ №1 Маладзечанскага райвыканкама.

Спартыўная школа знаходзіцца па адрасе: вуліца Ясінскага, 21 (зала грэка-рымскай барацьбы) Пачатак мерапрыемства ў 10 гадзін раніцы.

У праграме: інфармацыя пра работу ДЮСШ; сустрэча з былымі выпускнікамі; адкрыты вучэбна-трэніровачны занятак; запіс ахвотных у вучэбна-трэніровачныя групы па грэка-рымскай барацьбе. Калектыў дзіцячай спартыўнай школы запрашае прыняць удзел у мерапрыемстве ўсіх ахвотных.

**Аддзел інфармацыі.**

## Цяжкая перамога над "Магілёвам"

**МАЛАДЗЕЧНА.** "Дынама-Маладзечна" 8 снежня мінімальна абыграла ў гасцях ХК "Магілёў". Матч завяршыўся з лікам 6:5.

Першымі ў самым пачатку гульні забілі гаспадары. У канцы перыяду хакеіст маладзечанскай каманды **Артур Абмётка** забіў двойчы.

У другім перыядзе магіляўчане забілі тры галы. А маладзечанцы – толькі адзін.

У трэцім перыядзе адразу маладзечанцы зраўнялі лік. Аднак гаспадары зноў выйшлі наперад. У сярэдзіне перыяду дынамаўцы выдалі ўдарны адрэзак: свой другі гол у сустрэчы забіў **Аляксандр Паўловіч.**

Пераможную шайбу закінуў **Антон Мохараў**. Забіў гол ён у меншасці за тры з паловай хвіліны да канца трэцяга перыяду.

**– Кідаў на ўдачу?**

– Можна сказаць і так. Закінуць хацелася, але разумеў, што гуляем у меншасці. Кінуў – думаў, варатар зловіць, каб мы змяніліся, а атрымалася забіць. Рады гэтаму, пракаментаваў ён сайту hcdinamo.by.

Раней, 6 снежня, "Дынама-Маладзечна" прайграла ў гасцях салігорскаму "Шахцёру" 2:3 у авертайме.

## Мядзельцы – чацвертыя ў вобласці ў валейболе

**МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА.** У Маладзечне 5-6 снежня адбыліся фінальныя спаборніцтвы чэмпіянату вобласці па валейболе. Сустракаліся шэсць лепшых камандаў Міншчыны. Паміж іх была і каманда Мядзельскага раёна, якая раней выйграла занальныя спаборніцтвы ў нашым рэгіёне.

А ў фінале яна заняла чацвертае месца, паведаміў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі**.

## Сабраліся валейбалісты з дзвюх абласцей

**МЯДЗЕЛ, АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ**. У вёсцы Рымдзюны Астравецкага раёна 29 лістапада прайшоў турнір па валейболе на Кубак выклапку "Паўночны вектар". У спаборніцтвах ўдзельнічалі шэсць камандаў. Прадстаўлялі яны Ашмяны, Астравец, Мядзел, Мінск, Слуцк і Воранава.

З прадстаўнікоў рэгіёна найлепш выступілі мядзельцы – яны занялі трэцяе месца.

– Узровень турніру расце, – расказаў прадстаўнік каманды "Нептун" з Мядзела **Міхаіл Чаркасаў**. – І нам таксама ўдалося сабраць на гэты турнір моцных гульцоў.

Каманды падзялілі на дзве групы. У сваёй мядзельцы занялі другое месца. У паўфінале саступілі мінчанам. А ў матчы за трэцяе месца перайгралі каманду Воранава з лікам 2:0. Такім чынам, узялі ў яе рэванш за паражэнне ў групавым турніры.

Перамаглі ж у турніры гульцы са Слуцка, другое месца – у каманды "ОМА-Мінск".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Райвыканкам: калі прымуць рашэнне, датычнае будаўніцтва свінакомплексаў

"Магчыма, улічым пажаданні людзей і абяром новае месца для свінакомплексаў, перанясём куды-небудзь у лес". У гэтым выказванні адчуваецца нейкая крыўда на патрабаванні грамадства. Але калі так, то рашэнне правільнае! Няхай лепш партызаншчына будзе свіная, чым людская! ***Сціплы.***

Вельмі цікава, якое будзе рашэнне райвыканкама?.. Улічваючы вялікае мноства "недапрацовак" праекта і вялікую колькасць абураных людзей супраць гэтага будаўніцтва... **Эва.**

### Школьнік з Вілейкі змагаецца з хваробай: як можна дапамагчы

Які хлопец прыгожы, і імя прыгожае. Вельмі хачу дапамагчы, але ў банк наўрад ці дабяруся. Адкрыйце рахунак на тэлефон або любы плацеж, які можна здзейсніць у інтэрнэце. Думаю, я не адна такая. ***Валерыя.***

Згодная з папярэднімі каментарамі наконт тэлефона, куды можна было б грошы перавесці. Да банка, сапраўды, не заўсёды дойдзеш. У мяне толькі смс-банкінг, там такія аперацыі не правядзеш. ***Вераніка.***

Вельмі хочацца спадзявацца, што немалая колькасць перапостаў (класаў) – ужо больш за 300 – апынецца не меншай рэальнай падтрымкай гэтаму хлопчыку ў барацьбе з хваробай. Толькі выздараўлення! Давайце не будзем абыякавымі! ***Алеся.***

### Віляйчанін паехаў на заробкі ў Санкт-Пецярбург – месцазнаходжанне невядомае

Ён сёння 04.12.2014 у 14.35 быў у сацсетцы "Аднакласнікі". ***Юля.***

Паважаныя, выхад на старонку, гэта яшчэ не факт таго, што менавіта ён выходзіў. На маю старонку могуць заходзіць дачка і жонка. Для сям'і доступ на маю старонку не абмежаваны. ***Сціплы.***

Ну, дзяцей у яго няма, і ён разведзены. А галоўнае, свае фатаграфіі часам выкладвае, дзе ён у Піцеры. І самае галоўнае – ён статус паставіў сабе "Ды жывы я!" :) ***Юля.***

### На грамадскае абмеркаванне па будаўніцтве свінакомплексаў на Маладзечаншчыне прыйшло 100 чалавек (відэа)

Абмеркаванне праекта атрымалася вельмі гарачым. Трымаць удар ад народа мясцовым уладам давялося вельмі цяжка....Тэма для горада хвалюючая, таму людзі добра падрыхтаваліся: прыйшлі з сабранымі подпісамі і з многімі пытаннямі і разлікамі па праекце, якія зусім не стыкоўваліся з разлікамі праектантаў... ***Эва.***

## ГАРАСКОП 12-18 СНЕЖНЯ

**Авен.** Цяпер хоць не ўсё будзе ісці гладка, як вам хочацца, вынік акажацца станоўчым, а вы – на кані.

**Цялец.** Акуніцеся ў атмасферу надыходзячых святаў. Упусціце ў сябе энергію святла і любові. Адчуйце, як штосьці неверагодна лёгкае, прыгожае і казачнае напаўняе вас. Чакайце цудаў.

**Блізняты.** Рыхтуйцеся да святаў, навядзіце ўсюды парадак, павыкідайце непатрэбныя рэчы. Упусціце свежае паветра ў свой дом.

**Рак.** Не адстойвайце свае пазіцыі, старайцеся быць мякчэйшымі і да сябе, і да іншых. Энергічнае прыняцце рашэнняў адносна дома пасадзейнічае бачным пераменам. І тады жыццё падорыць вам шмат станоўчых эмоцый.

**Леў.** Займіцеся міласэрнасцю. І зусім неабавязкова ўкладвацца матэрыяльна. Вы можаце знайсці спосаб парадаваць іншых і зрабіць чыёсьці жыццё лепшым нават без грошай.

**Дзева.** Не раскідвайцеся грашыма, не рабіце неабдуманых пакупак, не трацьце іх марна. Цяпер вам падвернуцца выдатныя варыянты ўкладання сродкаў. Не прагадайце.

**Шалі.** Некаторым з вас лёс рыхтуе падарунак: вы сустрэнеце чалавека, пра якога нядаўна ўспаміналі. І сустрэча стане прыемным сюрпрызам для вас.

**Скарпіён.** Звярніце ўвагу на дробязі, якія не здаюцца вам чымсьці важным. Але менавіта яны якасна ўплываюць на ваша жыццё.

**Стралец.** Нічога не адкладвайце на потым, нават калі работа не патрабуе спешкі. І сачыце за сваім здароўем. Памятайце, што месяц перад днём нараджэння і месяц пасля ваш арганізм найбольш слабы.

**Казярог.** Настаў час прымаць рашэнні, ад якіх будзе залежаць усё ў вашым далейшым жыцці. І не прыслухоўвайцеся да меркавання іншых, інакш гэта будзе азначаць, што вы перадалі кіраванне сваім жыццём трэцяй асобе.

**Вадалей.** Вам трэба задумацца пра чалавека, якога вы даўно ўжо цешыце надзеямі. Зоркі раяць узважыць усе аргументы, але прымайце канчатковае рашэнне толькі інтуітыўна. Вы не памыліцеся, трэба толькі прыслухацца да сябе і рызыкнуць.

**Рыбы.** Зоркі рыхтуюць вам паляпшэнне матэрыяльнага становішча і вялізны асобасны рост.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Фэнтэзі "**Таямніца чатырох прынцэс**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
12, 14 снежня – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Фантастыка/меладрама "**Яна**" (ЗША, з 16 год)
12, 13, 14 снежня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Сёмы гном**" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
13, 14 снежня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Меладрама "**Белыя росы. Вяртанне**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
13 снежня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама "Хоць раз у жыцці" (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
17 снежня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Баявік "**Падзенне Алімпа**" (ЗША, з 16 год)
17, 18 снежня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Сямейны "**Дзённік мамы першакласніка**" (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
18 снежня – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера ў 3D "**Хобіт: Бітва пяці войскаў**"
12, 13, 14, 17, 18 снежня – у 19:00
Цана білета – 55 000 рублёў
13, 14 снежня – у 16:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Мядзведзі-суседзі**", 3D (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
14 снежня – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Фантастычныя прыгоды "**Галодныя гульні: Сойка- перасмешніца**" (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
13 снежня – у 16:00
16 снежня – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Пінгвіны Мадагаскара**", 3D (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
12 снежня – у 17:00
13 снежня – у 14:00
14 снежня – у 16:00
15, 18 снежня – у 19:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**Нязносныя босы-2**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
12 снежня – у 19:00
13 снежня – у 18:30
14, 17 снежня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі, прыгоды "**Хобіт: Бітва пяці войскаў**", 3D (ЗША, Новая Зеландыя, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 снежня – у 21:30
13, 15, 16, 18 снежня – у 21:00
14, 17 снежня – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Феі: Легенда пра пачвару**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
18 снежня – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**За трыдзевяць зямель**" (Данія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
12 снежня – у 16:30
13, 14 снежня – у 13:30; 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Лірычная драма "**Я не вярнуся**" (Беларусь, Казахстан, Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
14 снежня – у 17:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**13-ы раён: Цагляныя асабнякі**" (Францыя, 2013, пасля 16 год)
12 снежня – у 18:30
13 снежня – у 21:30
14 снежня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Вясёлыя рабяты**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
12, 14 снежня – у 21:00
13 снежня – у 19:30
15 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Драма "**Роля**" (Беларусь, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
13 снежня – у 17:00
16 снежня – у 19:00
17, 18 снежня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер, жахі "**Таямніца перевалу Дзятлава**" *** (Расія, ЗША, 2013, пасля 16 год)
16 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік "**Анёл-ахоўнік**" (Германія, 2012, пасля 16 год)
17 снежня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыйная меладрама "**Каханне па рэцэпце і без**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2013, пасля 16 год)
18 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**УВАГА! ДЗЕЦІ І ДАРОСЛЫЯ, ЯКІЯ ЯШЧЭ НЕ ЗАБЫЛІСЯ, ШТО НЕКАЛІ БЫЛІ МАЛЕНЬКІМІ!**
20 і 21 снежня ў 12:00 і
22-29 снежня ў 10:30 і 13:00

**ЗАПРАШАЕМ**

**на навагоднюю музычную казку для ўсёй сям'і "ХІТРЫКІ МАДАМ ЗАВІРУХІ", дзе вы сустрэнецеся са сваімі старымі знаёмымі: ДЗЕДАМ МАРОЗАМ, СНЯГУРАЧКАЙ І ІХ ВЕРНЫМІ СЯБРАМІ – СНЕГАВІКОМ І МЯДЗВЕДЗЕМ, якія будуць змагацца з зайздросліай МАДАМ ЗАВІРУХАЙ і яе праставатымі памагатарамі – БУКАЙ І БЯКАЙ.**

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
17 снежня – у 19:00

**ЮБІЛЕЙНЫ ВЕЧАР-БЕНЕФІС МАЙСТРА СЦЭНЫ АЛЕНЫ РАХМАНГУЛАВАЙ**

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**", *Ігар Балабко*
27 снежня – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/
УНП 600066659

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | | | | 6 | 8 | 9 | |
| | | 1 | 9 | | | 7 | | |
| 4 | | | | 3 | | | | 5 |
| | | | | | | | | 7 |
| | 1 | | | | | | 5 | |
| 9 | | | | | | | | |
| 5 | | | | 9 | | | | 3 |
| | | 7 | | | 5 | 6 | | |
| | 2 | 3 | 6 | | | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.




**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27


## НАДВОР'Е

**13 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -3 / -1 | | -1 / 0 | | 0 / 0 | | -2 / -2 | |
| | 740 | ↗ 2 | 733 | ↗ 7 | 744 | → 3 | 748 | ↑ 3 |
| Вільня | 0 / +1 | | +3 / +4 | | +1 / +4 | | -1 / +1 | |
| | 742 | ↗ 5 | 739 | ↗ 8 | 752 | → 4 | 756 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |


Усход 9.25
Захад 16.48
Даўжыня дня 7.23


Усход -
Захад 12.52
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- 13 снежня. Дзень Андрэя Першазванага, Андрэй, Андрэйкі. Дзявочы прысвятак, які вызначаўся варажбой дзяўчат, якія "высявалі" насенне лёну, канапель каля калодзежа ці палонкі, а перад сном у пасцелі, казалі: "Святы Андрэю, канапелькі сею, дай мне знаць, з кім буду век каратаць".

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як найлепш бавіць час узімку?



**Пётр Бірко, спартсмен:**

– Зімой трэба гуляць з сябрамі на вуліцы, у снежкі, лыпіць снегавікоў, катацца на лыжах, каньках. Узімку шчокі павінны быць ружовыя!



**Віялета Гузіна, журналіст:**

– Мне заўсёды падабалася катацца на санках у дзяцінстве. Цяпер ужо дарослая, і санак, разлічаных на такіх, няма. А ў даўніну гэта была самая распаўсюджаная зімовая забава ў моладзі.



**Ганна Новік, фларыст:**

– Кнігі, фільмы, глінтвейн, выношванне супер-ідэй на вясну-лета-восень. Нездарма зімой і сама прырода адпачывае.



**Вікторыя Янушкевіч, школьніца:**

– Я люблю катацца з горкі і гуляць у снежкі.

**Наталля ТУР.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як рыхтуюцца да Новага года дзеткі , якія выхоўваюцца ў сацыяльна-педагагічным цэнтры. Пра што мараць і якія лісты пішуць Дзеду Марозу. Чытайце ў наступным нумары РГ.**




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 50 (1024) 12.12.2014. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1665. Падпісана ў друк у 9.00 11.12.2014.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.